19 ТРАЎНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№54 (585) КОШТ СВАБОДНЫ




# Проект «Гончар»

Николай ХАЛЕЗИН

**16 мая завершился самый разрушительный политический проект последних двух лет – проект «Гончар». Группа граждан, ранее гордо называвших себя демократами, на протяжении нескольких месяцев убеждала население страны, что хочет явить миру нового лидера независимой Беларуси. Лидер явился. Им оказался глава Центризбиркома Виктор Гончар.**



## Три товарища

Каждое время рождает своих героев. Имена тех, кто претендовал в последние месяцы на роль творцов новейшей белорусской истории, вы прекрасно знаете. Это отнюдь не кандидаты на пост президента Зенон Пазьняк и Михаил Чигирь, а Семен Шарецкий, Станислав Шушкевич и Виктор Гончар. Именно эти три политика, пренебрегая нормами морали, пошли на обман избирателей, верящих в искренность намерений известных деятелей оппозиции. Лишь немногие знали, что честного проведения выборов, равно как и провозглашения имени нового президента, не планировалось изначально. Каждый из трех политиков преследовал свои цели.

Все их мысли сосредоточены на середине лета, когда легитимным главой государства станет Председатель Верховного Совета Семен Шарецкий. Именно тогда он должен был бы даровать Виктору Гончару пост премьер-министра. О чем думал, ввязываясь в авантюрный проект, Станислав Шушкевич, сказать трудно, но политику, у которого никак не ладится партийное строительство, а возраст дает о себе знать, скорее всего просто больше не на что рассчитывать. ▶

Окончание на стр.3

# Экс-прэм'ера абароніць ягоная жонка

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Юлія Чыгір дапушчаная да абароны свайго мужа, былога прэм'ера, а цяпер вядучага апанента Лукашэнкі Міхаіла Чыгіра. Аб гэтым ёй паведамілі ў следчым камітэце Міністэрства ўнутраных справаў. Праз дзень, пасля выканання неабходных фармальнасцяў, мяркуе Юлія Чыгір, яна пачне выконваць абавязкі абаронцы Міхаіла Чыгіра.**

Нагадаем, экс-прэм'ер знаходзіцца за кратамі з 31 красавіка. Адразу пасля арышту Чыгір выказаўся за тое, каб яго інтарэсы падчас следства абараняла жонка, што дазваляе беларускае заканадаўства. Між тым следчы А.Лаўрэнюк больш за месяц не пагаджаўся з гэтым патрабаваннем вядомага вязня, ніяк не матывуючы адмову. Гісторыя стала вядомая нават у АБСЕ, што, магчыма, і паўплывала на вынік. Ва ўсякім разе, менавіта ў дзень знаходжання ў Мінску пасланца АБСЕ сп.Севярына Юліі Чыгір паведамілі, што яна «можа збіраць патрэбныя паперы, каб абараняць мужа».



Якімі будуць першыя крокі ў якасці адвоката? На гэтае пытанне Юлія Чыгір адказала, што перш за ўсё сустрэнецца з мужам «без сведкаў», потым – дасканала вывучыць матэрыялы, сабраныя следчымі. «Тое, што заяўляе пракуратура пра віну майго мужа – бязглуздзіца і лухта. Я ўпэўненая, што майго прафесіяналізму хопіць, каб гэта даказаць», – заявіла Юлія Чыгір НАВІНАМ. ■

# «Гнуткае» АБСЕ

## Лёс Беларусі будзе вырашацца ў Бухарэсце і Пецярбургу

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**Спецыяльная рабочая група Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі рыхтуе слуханні ў Бухарэсце для вывучэння спосабаў, якія прывядуць да дэмакратычных выбараў у нашай краіне. На гэтыя слуханні запрашаюцца прадстаўнікі ўладаў і апазіцыі. Старшыня групы АБСЕ Адрыян Севярын мяркуе сабраць супрацьлеглыя бакі ў Бухарэсце ўжо ў чэрвені, перад пленарным пасяджэннем Парламенцкай Асамблеі АБСЕ ў Санкт-Пецярбургу, запланаваным на ліпень.**

Як і падчас папярэдняга візіту ў Беларусь у пачатку красавіка, калі праводзіліся выбары ў мясцовыя Саветы, Адрыян Севярын падкрэсліў, што ягоная дэлегацыя не мела статуса назіральнікаў на праведзеных прэзідэнцкіх выбарах. Менавіта па гэтай прычыне А.Севярын адмовіўся каментаваць і факт правядзення выбараў 16 траўня, і папярэднія лічбы галасавання. Па словах А. Севярына, «выбары былі палітычнай з'явай, якая дала магчымасць зрабіць пэўныя высновы». Старшыня парламенцкай групы спадзяецца, што прадстаўнікі ўраду і апазіцыі пазітыўна скарыстаюць гэтую падзею для пачатку канструктыўных, сур'ёзных перамоваў для вырашэння канстытуцыйнага крызісу. Група АБСЕ прызнала «ўзрастанне моцы плюралістычных палітычных сілаў у Беларусі». Аднак, як лічаць у многіх краінах, прэзідэнцкія выбары павінны адбыцца ў нашай краіне менавіта ў гэтым годзе. Асаблівую ўвагу парламенцкая дэлегацыя звярнула на факты пераследу і юрыдычных контрмераў, якімі суправаджалася выбарчая кампанія. Адрыян Севярын заявіў, што «затрыманне ў следчым ізалятары аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты выклікае шмат пытанняў і павінна быць неадкладна спыненае». Улічваючы створаныя ўладамі перашкоды, па словах А.Севярына, «не чакалася, што выбары 16 мая будуць адпавядаць стандартам АБСЕ». ▶

Заканчэнне на стар.3

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### 25–27 траўня Аляксандр Лукашэнка наведае Муртазу Рахімава

На 25–27 траўня запланаваны візіт прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Рэспубліку Башкірыя. Мэтай першага візіту беларускага прэзідэнта ў сталіцу Башкірыі з'яўляецца абмеркаванне пытанняў развіцця двухбаковага супрацоўніцтва і падпісанне адпаведных дамоўленасцяў. У праграме візіту – сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Башкірыі Муртазой Рахімавым і кіраўнікамі рэспубліканскага ўраду.

### Барак змяніў Нетаньяху

Прэм'ер-міністрам Ізраіля на агульных выбарах, што прайшлі ў мінулы панядзелак, стаў лідэр блока левых партыяў Ехуд Барак. За яго прагаласавала 58,5% выбаршчыкаў. Былы прэм'ер, старшыня правай партыі «Лікуд» Біньямін Нетаньяху набраў 41,5% галасоў.



Агульная пазіцыя левых – дасягненне міру ў стасунках з арабамі, таму новаабраны прэм'ер пaведаміў, што яшчэ да канца гэтага года вывядзе ізраільскія войскі з Паўднёвага Лівана і падпіша пагадненне аб урэгуляванні з адміністрацыяй палестынскай аўтаноміі. Варта адзначыць, што істотную ролю на выбарах адыгралі былыя эмігранты з Савецкага Саюза. У краіне з колькасцю выбаршчыкаў больш за 4 мільёны, «рускіх» (менавіта так называюць у Ізраілі выхадцаў з усіх рэспублікаў СССР, дзе яны лічыліся яўрэямі) – больш за 600 тысячаў.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

## НАДВОР'Е




**20 траўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, 2–7 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 2–7 градусаў цяпла.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**430 000**

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Эзопава фаўна

Калі чалавеку не даюць свабодна сказаць усё, што ён думае пра ўладу, чалавек пачынае карыстацца эзопавай мовай. Напрыклад, ён хоча расказаць праўду пра свайго начальніка Івана Іванавіча, але баіцца, што той яму адпомсціць. Выганіць з работы, адбярэ прэмію і г.д. Тады чалавек пачынае расказваць саслужыўцам гісторыю пра нейкага *Слана*, які крадзе на службе алоўкі, цешыцца з сакратаркай проста на рабочым стале, ездзіць на службовай «Волзе» да цешчы і гоніць самагонку на лецішчы. І ўсе саслужыўцы адразу пазнаюць у асобе *Слана* менавіта Івана Іванавіча..

Як правіла, у эзопавай мове самае высокае начальства параўноўваюць з нейкім магутным драпежнікам. З *Арлом, Львом, Кракадзілам, Тыграм, Насарогам, Бегемотам.* Драбнейшае начальства мае вывязы *Ваўка, Шакала, Удава*... Зусім нікчэмных начальнічкаў параўноўваюць з *Мухамі, Трутнямі, Гадамі, Жабамі.* Разам з тым, ёсць назвы, якія да фаўны ніколі не належалі, але ёй сталі. Напрыклад, вялікі чырвоны будынак насупраць тэатра Янкі Купалы ў Мінску называюць *Домам Калхозніка.* У гэтым выпадку, мабыць, наватвор *Калхознік* стаў на месца *Арла* і *Кракадзіла.* Калі заўтра па вуліцах пойдзе дэманстрацыя з лозунгам «Далоў Дурня!», нікому не трэба будзе тлумачыць, хто такі *Дурань.*

На эзопавай мове складаюцца ўсе вершаваныя байкі і анекдоты. Дарэчы, гэты жанр асабліва шырока распаўсюджваецца ў часы панавання жорсткай дыктатарскай улады. Добра чыталіся яны ў Францыі падчас напалеонаўскіх войнаў, у Расіі, калі панавала павальнае ўсеагульнае трохсотгадовае царскае рабства, у СССР, калі савецкіх людзей душылі савецкія камуністы. Эзопава мова – дакладны індыкатар свабоды ў грамадстве. Чым больш свабоды, тым менш эзопавай фаўны. І наадварот...

У гэтым сэнсе, нам, беларусам, прыйшоў час звярнуцца да бессмяротнай класікі – твораў Кандрата Крапівы. Амаль усе яны сёння зноў – «у дзесятку». Толькі ёсць адна прыкрасць: нашы начальнікі не рыфмуюцца *з Тыграмі і Кракадзіламі*, а ўсё больш – з *Мухамі і Баранамі.* Вось, напрыклад, мараль байкі «*Вол і Авадзень*»: «Нямала ёсць павадыроў, якія любяць люд працоўны за тое толькі, безумоўна, што любяць яго кроў». Альбо радкі з байкі «Дыпламаваны *Баран*»: «Каб ты быў разумнейшым трошкі ды розумам раскінуць мог авечым, то ўбачыў бы, што ганарыцца нечым, бо заслужыў ты свой дыплом не галавой, а лбом».

А закончыць можна высновамі з байкі пра «*Цыгана і Кабылу*»:

Не ездзіць *Цыгану*
на хваленай *Кабыле*:
Яму – прадаць і зарабіць.
Аб бессумленнасці яго
не будзем мы трубіць,
Бо разумеем цыганоў...

# На беларуска-польскай мяжы — чарга на дзесяткі кіламетраў

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**

У бліжэйшыя дні прадстаўнікі пагранічных, мытных і іншых зацікаўленых ведамстваў Беларусі і Польшчы збяруцца для таго, каб абмеркаваць сітуацыю, што склалася на мяжы дзвюх краінаў. Размова ідзе пра новы парадак афармлення транспартных сродкаў, уведзены польскім бокам з 9 траўня. З гэтага дня для грузавікоў, якія ўмяшчаюць больш за 9 тонаў, і пасажырскіх аўтобусаў пры перасячэнні мяжы ўведзеныя вялікія грашовыя зборы, так званыя «ўраўняльныя» падаткі.

На думку беларускіх мытнікаў, Польшча ўвяла такія высокія стаўкі для беларусаў у адказ на зборы з беларускага боку, якія паступова павышаюцца. З 10 сакавіка, напрыклад, Брэсцкі аблвыканкам увёў мясцовы збор для грузавікоў, якія перасякаюць шэраг кантрольна-прапускных пунктаў, а з 1 красавіка – для грузавікоў, якія едуць праз тэрмінал «Саваўта—Брэст». Акрамя таго, усім, хто перасякае мяжу, даводзіцца плаціць экалагічны падатак.

Уведзены Польшчай пагранічны падатак можа сарваць шэраг аўтобусных маршрутаў, якія дзейнічаюць паміж Брэстам і польскімі гарадамі. Больш таго, польскія мытнікі ўзмацнілі жорсткасць праверкі на мяжы транспартных сродкаў. Калі некалькі тыдняў таму за суткі яны аглядалі 500 машын, то ў апошнія дні – усяго да 300. З-за гэтага чэргі на грузавым пераходзе «Казловічы» расцягнуліся на дзесяткі кіламетраў. ■

## Магілёўскі металургічны завод можа стаць амерыканскім

**Аддзел інфармацыі**

Кантрольны пакет акцыяў адкрытага акцыянернага таварыства «Магілёўскі металургічны завод» можа перайсці да замежнага інвестара. Як паведаміла агенцтву БелаПАН крыніца ва ўрадзе, цяпер паміж Міністэрствам па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Беларусі і амерыканскай фірмай «Бостан Трэйд Канэкшэнз» вядуцца перамовы аб правядзенні дадатковай эмісіі акцыяў Магілёўскага металургічнага завода на агульную суму 3 млн. долараў ЗША, а таксама аб продажы на конкурснай аснове 5-працэнтнага пакета акцыяў прадпрыемства, якія належыць дзяржаве. Паводле крыніцы, у выпадку правядзення дадатковай эмісіі і набыцця 5-працэнтнага пакету акцыяў, доля «Бостан Трэйд Канэкшэнз» у статутным капітале ААТ складзе больш за 50 працэнтаў. ■

**ФОТАФАКТ**



Як пасееш, так і пажнеш

# Драма абласнога драматычнага

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

360 тысяч долараў патрабуецца будаўнікам і рэстаўратарам, каб абласны тэатр у Магілёве здолеў прыняць гледачоў.

Тэатр рэстаўруецца ужо амаль 10 гадоў. За гэты час клятвы ў тым, што тэатр з'яўляецца самым прыярытэтным аб'ектам, далі ўсе начальнікі ад кіраўніка аддзела да прэзідэнта. Але дасюль будаўнікі асвоілі толькі некалькі дзесяткаў мільярдаў. Па праграме фінансавання гэтага года выдаткоўваецца яшчэ 20 мільярдаў. Можна падлічыць, колькі трэба яшчэ чакаць, пакуль тэатр адчыніць свае дзверы! Па разліках дзяржустановаў, што адказваюць за арганізацыю будаўнічых работаў, цяпер доўгачаканае адкрыццё пераносіцца з 2001 года на 2004.

Між тым нельга не ўзгадаць пра іншую будоўлю Магілёва – лядовы палац ля ДК «Хімвалакно». На яго ўзвядзенне ўлада знайшла амаль у першачарговым парадку некалькі мільёнаў долараў. Работы ідуць надта шпаркімі тэмпамі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка разам са сваім "заўхозам" Іванам Ціцянковым надта пільна сочыць за будаўніцтвам палаца. Зразумець прыярытэты ўлады з нармальнага чалавечага пункту погляду немагчыма. На помнік культуры і гісторыі, які мае вялікі і багаты лёс, грошай і пільнасці не хапае. Не хочацца супрацьпастаўляць культуру спорту. Але міжволі напрошваюцца аналогіі з Германіяй, дзе ў трыццатыя гады таксама шпарка будавалі стадыёны і дэманстравалі неперамоўныя дух нацыі. ■

# СПИД пошел по регионам

**Наталья ВОЛОКИДО**

Эпидемия СПИДа все шире распространяется не только в городах, но и в провинции. Как сообщил Республиканский центр профилактики СПИД, на начало месяца ВИЧ-инфекция охватила уже более 70 городов и районов Беларуси.

По данным на 1 мая, в республике зарегистрировано 2.480 ВИЧ-инфицированных. Реальное число носителей инфекции, по предположениям специалистов, превышает официальную статистику не менее чем в 10 раз.

74% зарегистрированных ВИЧ-инфицированных – мужчины, 26% – женщины. Молодежь в возрасте 20-29 лет составляет 68,8%, 15-19 лет – 19,4%. Заражение происходит, в основном, при инъекционном введении наркотиков, а также половым путем. Через донорскую кровь заражений в республике не было. Хотя, подтвердил главврач РЦП СПИД Валерий Глазовский, случаи выявления ВИЧ-инфицированных доноров есть. «Их удалось выявить на стадии сдачи крови, – сказал Валерий Глазовский. – И эта кровь не пошла в работу».

Большую обеспокоенность у специалистов вызывает рост числа носителей инфекции среди детей. В республике от ВИЧ-инфицированных матерей родилось уже более 70 детей. Опасная ситуация и в местах заключения. Там число зараженных смертельным вирусом превысило 600 человек.

– К сожалению, вовлечение новых регионов республики в эпидемический процесс будет продолжаться, – сказал Валерий Глазовский. – Причем не только с городским, но и сельским населением. Прогноз дальнейшего развития эпидемии неблагоприятный. В настоящее время в республике сохраняются признаки интенсивного распространения ВИЧ-инфекции. ■

**ЦЫТАТА НУМАРА**

***Но, учитывая бюджетные трудности, не стоит исключать возможность для какого-нибудь счастливчика-толстосума попариться на исторических полках. За отдельную и, надо думать, немалую плату. Тем более, нынешний Президент Беларуси — человек простой, и чиниться не любит.***

*Татьяна ВЛАДИМИРОВА*
*«Советская Белоруссия», 18 мая 1999г.*

## Спыніць тэрор у Беларусі!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Акцыю пад такой назвай з учарашняга дня распачаў прэс-цэнтр Хартыі'97 у Інтэрнеце. На працягу некалькіх тыдняў кожны наведвальнік інфармацыйнага сайта Хартыі па адрасе www.charter97.org можа адправіць на электронны адрас ці факс прыёмнай прэзідэнта Беларусі ліст пратэсту. У прыватнасці, у гэтым лісце ўтрымліваюцца звесткі пра апошнія рэпрэсіі ўладаў супраць палітычна нелаяльных грамадзянаў, патрабаванне правядзення ўсебаковага следства па факце знікнення Юрыя Захаранкі і заклік да спынення тэрору ў Беларусі. Пры жаданні адпраўшчык ліста можа накіраваць яго англамоўны варыянт і захаваць сваю ананімнасць. ■

## Гары Паганяйла адмовілі ў іску

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Мінскі гарадскі суд пад старшынствам суддзі Басава адмовіў вядомаму адвакату Гары Паганяйлу ў ягоным іску да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. Іск датычыўся незаконнага, на думку спадара Паганяйлы, накладання хатняга арышту на Тамару Віннікаву. Прычынаю адмовы ў іску стала тое, што, па меркаванні суддзяў, такія пытанні павінны вырашацца не ў судовым, а ў крымінальна-працэсуальным парадку.

Між тым на рэпліку з залы, маўляў, як жа вы можаце прымаць незаконныя рашэнні, суддзі адказвалі: «Мы ж таксама людзі, таксама хочам жыць». ■

## Разгон і канфіскацыя

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Улады Ляхавіцкага раёна сарвалі семінар па правах чалавека, які ладзіўся для мясцовай моладзі актывістамі праваабарончага руху з Баранавічаў і Мінска. Міліцыянеры разам з чыноўнікамі райвыканкама ўварваліся ў гатэль, дзе спыніліся лектары з праваабарончага цэнтра «Вясна-96», правялі ператрусы і канфіскавалі ўсе друкаваныя матэрыялы, у тым ліку Дэкларацыю правоў чалавека і брашуры з выпрымкамі з Адміністратыўнага кодэкса Беларусі. Ад усіх удзельнікаў семінара міліцыянеры запатрабавалі тлумачэнняў, а краўніка семінара Алеся Горбача і юрыста цэнтра "Вясна-96" Валянціна Стэфановіча некалькі гадзінаў пратрымалі ў ляхавіцкім пастарунку.

Па звестках праваабаронцаў, кіраваў акцыяй па разгоне семінара мясцовы вертыкальшчык сп.Юргуць. ■

## Новы палітвязень на падыходзе?

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Судовы працэс над намеснікам старшыні «Маладога фронту» Яўгенам Скочкам пачнецца заўтра а 10-й гадзіне ў Мінскім гарадскім судзе.

Нагадаем, што крымінальная справа супраць маладафронтаўца была ўзбуджаная ў лютым бягучага года пасля традыцыйнага маладзёжнага шэсця «Беларусь у Еўропу», дзе, на думку следчых, ён наладзіў феерверк, чым справакаваў масавыя беспарадкі. Абвінавачванне Яўгену Скочку было прад'яўлена па артыкуле 186-3 (масавыя беспарадкі падчас вулічных акцыяў), па якім юнаку пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Да суда маладафронтавец знаходзіўся на свабодзе, бо следчы ўлічыў хадайніцтва і выпусціў Яўгена пад падпіску аб нявыездзе.

На думку кіраўніцтва «Маладога фронту», працэс будзе вельмі цікавым і набудзе гучанне ў сродках масавай інфармацыі. Старшыня «МФ» Павел Севярынец заклікаў усіх неабыякавых прыйсці ў чацвер у 10 гадзінаў раніцы ў суд, які знаходзіцца па вул. Дуніна-Марцінкевіча, 1, і падтрымаць Яўгена перад магчымым прысудам на гады пазбаўлення волі. ■

**АНОНС**

## Вясна... Паэтычныя чытанні...

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) распачынае вясновыя паэтычныя чытанні. Першая імпрэза адбудзецца ў чацвер 20 траўня ў 18 гадзінаў у скверы імя Янкі Купалы (насупраць будынка Дзяржцырка). Каля помніка вялікаму песняру свае вершы прачытаюць і вядомыя майстры паэтычнага слова, і пачаткоўцы. Плануецца выступленне бардаў.

Чытанні будуць праходзіць па чацвяргах, раз на два тыдні. ■

# «Нерэнтабельнасць» роднай мовы

Наталля РАДЗІНА

«Добры дзень, дарагая рэдакцыя!

Піша вам беларускамоўны клас. Мы звяртаемся да вас па дапамогу, бо наш клас збіраюцца зачыняць. Калі ласка, не пакіньце наш ліст без увагі, бо менавіта гэта паўплывае на наш далейшы лёс...»

Дзевяцікласнікі 191-й мінскай школы сёння змагаюцца за права вучыцца ў роднай краіне на роднай мове. 9 «А» клас — першы беларускамоўны клас у сваёй школе. За дзевяць гадоў навучання дзеці былі выхаваныя ў духу беларускіх традыцыяў і культуры. Беларуская мова стала для іх адзінай мовай зносінаў з роднымі і сябрамі. Яны былі цвёрда ўпэўненыя, што ў роднай краіне перспектыўна і патрэбна валодаць нацыянальнай мовай, але сёння, на парозе выпуску, сутыкнуліся з нечараваным — у іх адымаюць магчымасць працягваць вучобу на роднай мове.

Справа ў тым, што ў 191-й школе (між іншым, як і ў большасці школаў) беларускамоўныя класы даволі нешматлікія. У паралелі восем 9-х класаў, і толькі адзін навучаецца на беларускай мове. Усяго ў класе дваццаць вучняў. Пасля 9-га класа, як правіла, частка школьнікаў паступае ў тэхнікумы і СПТВ. У выніку ў 10-ым «А» застанецца 10–12 чалавек. Утрымліваць такі малы клас школа лічыць нерэнтабельным.

Цікава, што ў СШ № 191 у кожнай паралелі з 1-га па 9-ты клас ёсць па адным беларускамоўным класе. Колькасць вучняў у іх вагаецца ад 15 да 20. Атрымліваецца, што пасля 9-га класа кожны беларускамоўны клас зноў жа апынецца нерэнтабельным і будзе падлягаць роспуску. Па гэтай прычыне бацькі сёння не бачаць сэнсу аддаваць сваіх дзяцей вучыцца на роднай мове, бо ў 10 і 11 класх тыя ўсё роўна будуць вымушаныя навучацца па-руску.

Дзеці-беларусы ў паніцы. Яны прызвычаіліся да сваёй школы, да настаўнікаў, адзін да аднаго. А ім сёння прапаноўваюць альтэрнатыву, якая абсалютна нікога не задавальняе. Альбо працягваць навучанне ў старой школе, але на рускай мове, альбо пераходзіць у іншую школу і вучыцца на роднай беларускай мове. Пятнаццацігадовыя хлопцы і дзяўчаты добра ўсведамляюць свае права навучацца ў сваёй школе на роднай мове і з максімалізмам, уласцівым юнацтву, пытаюцца ў лісце: «Што ж гэта робіцца ў нашай краіне, калі знішчаецца беларускі этнас і ўсё, што яму належыць?»

Варта адзначыць наступныя цікавыя абставіны. Клас лічыцца скамплектаваным, калі ў ім вучыцца 25 чалавек. Паколькі ў класах з беларускай мовай навучання недабор, то ў іх час ад часу спрабуюць «спіхнуць» слабых вучняў з іншых класаў — тым, як правіла, усё роўна, на якой мове не вучыцца. Акрамя таго, ужо 10-я класы падзяляюцца па профілях: фізіка-матэматычны, эканамічны, гуманітарны. У 10-м фізіка-матэматычным класе навучаецца 18 чалавек. Пра недабор і «нерэнтабельнасць» тут размова не ідзе... Беларускамоўны ж клас традыцыйна палічылі нерэнтабельным. Ужо самі настаўнікі пайшлі насустрач вучням, якія пажадалі атрымаць адукацыю на роднай мове. Гісторыкі, хімікі, матэматыкі сталі самастойна вывучаць беларускую мову, каб выкладаць на ёй свае прадметы.

Дырэкцыя школы разводзіць рукамі — шкада, але «не ў нашых сілах паправіць сітуацыю». Атрымліваецца замкнёнае кола: дырэкцыя спасылаецца на гарАНА, гарАНА — на міністэрства адукацыі, тыя ж, у сваю чаргу, шкадуючы дзяцей, чакаюць ад парламента і прэзідэнта пацверджання таго, што родная мова важнейшая за эканамічную «рэнтабельнасць». А вучні спасылаюцца на свае канстытуцыйныя правы, на сваю любоў да роднай мовы, якой іх пазбаўляюць сённяшнія беларускія ўлады. ■

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Акрэсленая ў лісце вучняў сітуацыя паўтарае тое, што забівала беларускую мову пры панаванні камуністычнай партыі, якая «стварыла» «новую чалавечую агульнасць — савецкі народ». У 1991–1994 гадах зацікаўленасць у адраджэнні нацыянальнай школы, павага да роднай мовы спрыяла пашырэнню класаў з беларускай мовай навучання. Палітыка прэзідэнта А.Лукашэнкі, згода на маўклівасць Міністэрства асветы руйнуюць плён працы мноства людзей. Спасылкі на «нерэнтабельнасць» наогул носяць цынічны характар, бо ўся школа, як добра ведаюць работнікі Міністэрства адукацыі, дырэктары і настаўнікі — «нерэнтабельная». Яна бюджэтная, аплочваецца падаткаплацельшчыкам, а прыбытак ад яе — добрыя веды і выхаваныя душы маладых людзей. Таму «нерэнтабельнасць» у сапраўднасці азначае жаданне сённяшніх уладаў, каб нашая моладзь у будучыні працавала не на Беларусь, а на суседзяў. Не трэба падманваць школьнікаў эканамічнымі тэрмінамі. Яны павінны ведаць, што іх наўмысна пазбаўляюць любові да роднай мовы, культуры і будучыні сваёй радзімы. ■

# Заключение

## О легитимности президента Республики Беларусь А. Лукашенко после 20 июля 1999 года

1. Конституция Республики Беларусь 1994 года (статья 97) устанавливает срок полномочий президента Республики Беларусь в 5 лет с момента вступления в должность. По смыслу Конституции этот срок не может быть продлен ни при каких обстоятельствах. Президент А. Лукашенко принес присягу на верность Конституции и вступил в должность 20 июля 1994 года. Значит, срок его законных полномочий истекает 20 июля 1999 года.

2. Новая редакция Конституции введена в действие вопреки конституционным нормам в ноябре 1996 года. Она предусматривает продление срока полномочий президента Республики Беларусь на два года. Однако этот вопрос не выносился в качестве самостоятельного на референдум и не обсуждался Верховным Советом, что лишает указанные поправки всякой юридической силы.

3. Несмотря на то, что новая редакция Конституции не может признаваться в качестве законной основы белорусского государства, ее фактическое применение органами государственной власти не опровергает первоначальных сроков президентских полномочий. Граждане Беларуси не утратили права избирать президента страны через каждые пять лет.

4. В настоящее время президент А. Лукашенко узурпировал всю власть в Республике Беларусь. Тем не менее, единственным органом государственной власти, который вправе назначить президентские выборы, остается Верховный Совет Республики Беларусь. Находясь в условиях политического гонения, он выполнил свой конституционный долг и назначил выборы президента Республики Беларусь на 16 мая 1999 года.

5. Если очередные выборы президента не будут проведены в установленные Конституцией 1994 года сроки, то А. Лукашенко с 20 июля 1999 года утрачивает легитимность как глава государства и исполнительной власти, а полномочия президента временно переходят к председателю Верховного Совета Республики Беларусь, который обязан назначить выборы президента не позже чем через 70 дней со дня замещения должности. ■

**Михаил ПАСТУХОВ**, доктор юридических наук, профессор, судья Конституционного суда Республики Беларусь, д-р **Штеван ЛИЛИЧ**, профессор права, Белградский университет, **Димитрис ТСАСОС**, профессор права (Афины, Греция), **Биляна КОВАЦЕВИЧ-ВУКО**, президент Комитета юристов в защиту прав человека (Белград, Югославия), **Эрнесто КАРВАКАЛЕ** (Венеция, Италия), **Стефан ХАКЕНБЕРГЕР** (Германия), **Азелио ФУЛМИНИ** (Рим, Италия)

# «Гнуткае» АБСЕ

Алесь ДАШЧЫНСКІ

*(Пачатак на стар.1)*

Адрыян Севярын яшчэ раз даў зразумець, што Еўропа чакае ад Беларусі дэмакратычных выбараў, якія адпавядалі б агульнапрызнаным нормам. У іх павінны прыняць удзел усе палітычныя сілы, каб сфармаваць законныя інстытуты дзяржаўнай улады. Для дасягнення гэтых мэтаў прапаноўваецца стварыць рамачныя ўмовы. Цяпер давядзецца чакаць вынікаў паседжанняў пад эгідай АБСЕ ў Бухарэсце і Санкт-Пецярбургу. У прэзідэнта Лукашэнкі ўжо засталося не так шмат часу для манеўру, 20 ліпеня заканчваецца тэрмін ягоных паўнамоцтваў. Тым часам пасля сустрэчы з А.Севярынам старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар выказаў карэспандэнту НАВІНАЎ спадзяванне, што вынікі выбараў 16 траўня зробяць уплыў на аб'яднанне пазіцыяў АБСЕ, ЗША і Расіі па неадкладным правядзенні ў Беларусі прэзідэнцкіх выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі.

Падчас трэцяга візіту на Беларусь старшыня рабочай групы па Беларусі Адрыян Севярын яшчэ раз падкрэсліў, што Вярхоўны Савет 13-га склікання прызнаецца Парламенцкай Асамблеяй АБСЕ дэмакратычна абраным парламентам Беларусі. Вядома, што АБСЕ не прызнала вынікаў апошняга рэферэндуму, аднак пакуль невядома, што стане асновай для будучых выбараў. Па словах А.Севярына АБСЕ прытрымліваецца «стратэгічнай цвёрдасці, але тактычнай гінуткасці». Ва ўсякім разе, пра аснову павінны дамовіцца супрацьлеглыя бакі, але спачатку АБСЕ спрабуе іх звесці да перамоваў. Кіруючы рэжым і апазіцыя вылучаюць свае ўмовы, але асноўная праблема ў тым, што згублены давер. На думку А. Севярына, «адносіны паміж бакамі значна атручаныя, аднак склалася ўражанне, што ёсць сур'ёзнае жаданне пачаць дыялог». Палітычны сігнал з боку рэжыму бачыцца Адрыяну Севярыну ў тым, што падчас выбараў 16 траўня не праводзіліся «шырокамаштабныя» акцыі супраць апазіцыі і не было вострай канфрантацыі. ■

# Проект “Гончар”

Николай ХАЛЕЗИН

*(Начало на стр.1)*

## Мертвые души

То, что число проголосовавших было фальсифицировано, ни у кого не вызывает сомнения. Начиная с 6 мая Центризбирком добавлял ежедневно по 300–400 тысяч к списку проголосовавших. В итоге получилась умопомрачительная цифра в 3,7 миллиона избирателей, принявших участие в голосовании. То есть — почти половина взрослого населения страны. При этом найти человека, к которому бы в дом приходили «урноносцы», практически невозможно. Да и кто мог прийти? Ведь рядовые члены БНФ, которые были делегированы в избирательные комиссии, вышли из их состава сразу после распоряжения руководства Фронта. А это около 80% состава. Ответ на вопрос, сколько же белорусских граждан приняло участие в голосовании, мы узнаем спустя месяц, когда будет проведен социологический опрос на эту тему.

Группа, проводившая эти выборы, цинично воспользовалась наработками всех представителей демократической оппозиции. Следует отметить, что подобного могло не произойти, если бы не проявили малодушие некоторые члены Верховного Совета и лидеры партий и движений. Вместо того, чтобы взять под жесткий контроль процедуру выборов, они самоустранились. После того, как процесс потерял свою прозрачность и что-либо изменить в его ходе стало невозможно, оппозиционные политические структуры стали заложниками тех, кто взял на себя ответственность за проведение выборов.

## Хроника пикирующего бомбардировщика

Попробуем подсчитать урон, нанесенный демократическим силам этим авантюрным проектом. Независимые газеты, получившие предупреждения за публикацию документов Центризбиркома, находятся на грани закрытия. Частные типографии, не имевшие никакого отношения к изготовлению избирательных бюллетеней, скоро лишатся, либо уже лишились лицензий. Партии и негосударственные общественные организации демократического толка, получив предупреждения, не пройдут перерегистрацию. Крупнейшие политические структуры — Белорусский Народный Фронт и Объединенная гражданская партия — переживают раскол из-за расхождения во взглядах на проведение избирательной кампании. Жесточайшие репрессии в регионах — десятки осужденных и уволенных со своих рабочих мест.



Группа, проводившая выборы, подошла к проблеме со сталинским цинизмом: мы должны взять эту сопку любой ценой, даже ценой гибели нескольких дивизий. В проекте «Гончар» не подразумевалось создания фонда помощи репрессированным. А ведь подобные фонды являлись опорой и для польской «Солидарности», и для чехословацкого «Гражданского форума». Только при эффективно действующей системе коллективной безопасности можно разворачивать проекты, подобные параллельным президентским выборам. Но в том-то и дело, что у группы Гончара задача провести выборы не стояла. Стояла задача персональной раскрутки за счет использования человеческих ресурсов демократических партий и движений.

## Завтра не умрет никогда

В последнее время в среде демократической оппозиции часто звучит опасная мысль — с порочным режимом надо бороться его же методами: лгать и ловчить. Но тогда какой смысл тратить силы на борьбу с нынешней властью? Чтобы заменить ее на подобную? Ведь людей ведет за демократической оппозицией лишь вера в то, что она **моральна**.

Как можно врать людям? Тем, которые, не взирая на небывалый прессинг, собирали подписи; пытались открывать избирательные участки у себя на квартирах; обходили сотни домов, зная, что в любую минуту могут быть арестованы.

«Белорусская деловая газета» заявила после провала избирательной кампании, что оппозиции у нас больше нет. Полная чушь! Оппозиция — это не десяток политиков пенсионного возраста и не несколько молодых циничных прагматиков. Это те рядовые члены партий и движений, которые ничего не боясь выходят на митинги и пикеты, которым надоело жить в атмосфере тотального вранья и которые плевать хотели на запугивания властей. Они неглупые люди и сами решат, что делать дальше. ■

ПРЫВАТНАЯ ДУМКА

# Маладзёжны радыкалізм

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Маладзёжны радыкалізм у Беларусі пачаў шукаць сабе прымянення даўно. Яшчэ з «гарачай» вясны 1996 года ў грамадстве старанна мусіраваліся чуткі аб стварэнні дзесяці ў лясах ваенізаваных атрадаў маладых беларускіх патрыётаў, якія, маўляў, і павінны ў патрэбны момант усё вырашыць.**

Моладзь, маральна падрыхтаваная да такіх дзеянняў, сапраўды была. Як распарадзіліся гэтым патэнцыялам нацыянал-дэмакратычныя сілы Беларусі, да якіх хлопцы самі ішлі ў рукі? Адказам на гэтае пытанне служыць разгортванне на беларускай зямлі шырокага руху рускіх нацыстаў (РНЕ). Многія маладыя «накачаныя» хлопцы, якія ў 96-м кулялі міліцэйскія машыны на праспекце Скарыны і з голымі рукамі кідаліся на міліцыянтаў падчас бойкі ў раёне Траецкага прадмесця, цяпер у берцах і чорных бушлатах са стылізаванай свастыкай на рукаве прагульваюцца без перашкодаў па ўсёй сталіцы.

Чаму так адбылося? Сімвалам нацыянал-радыкалізму, пачынаючы з 1989 года, заўсёды лічыўся і лічыцца цяпер Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне», на базе маладзёжнай часткі якога была ўтвораная арганізацыя «Малады фронт», якая мусіла збіраць пад свае сцягі моладзь, што хлынула ў Фронт пасля вясны-96, кансалідаваць яе і даваць працу на карысць Фронту і Бацькаўшчыны.

Гледзячы з далечыні пройдзенага часу, можна адназначна сцвярджаць, што ні «Малады фронт», ні БНФ задаволіць патрэбы гэтай часткі маладых проста не маглі. «МФ»ператварыўся ў культурніцкую тусоўку са своеасаблівым разуменнем сітуацыі і метадамі супрацьстаяння ўладам. Можна, канешне, зразумець цяперашняга кіраўніка маладафронтаўцаў Паўла Севярынца, бо кожны робіць тое, што найлепш умее. Але сродкамі кшталту «шоў-беларушчыны» — хоць сама па сабе гэтая ідэя, безумоўна, і вартая існавання — барацьбу за Беларусь не выйграць.

Тым не менш, людзі ў «Малады фронт» ішлі і ідуць. Кожны дзень з'яўляецца хтосьці новы, але не меншая хваля расчараваных пакідае шэрагі арганізацыі. Патэнцыйна «Малады Фронт» — самы магутны маладзёжны рух, ён мае прадстаўнікоў ва ўсіх гарадах, значна пераўзыходзіць той жа БПСМ, аднак «МФ» цяпер — маладзёжны прыдатак БНФ, прычым не самы ўдарны, хоць усё яшчэ больш папулярны, чым «Маладая грамада» і «Грамадзянскі форум».

Апошнія, як юнацкія часткі двух іншых буйных беларускіх партыяў, Сацыял-дэмакратычнай і Аб'яднанай грамадзянскай, ніколі і не прэтэндавалі на вядучыя ролі. Праводзячы па большай частцы публічную палітыку і не абцяжарваючы сябе стварэннем філіяў у малых і сярэдніх гарадах ды чарнавой працай кшталту агітацыі, гэтыя маладзёжныя прыдаткі сваіх партыяў, тым не менш, маюць устойлівы рэйтынг. У асноўным з-за таго, што ўвесь час фігуруюць у незалежнай прэсе ды раз-пораз ладзяць пікеты ў падтрымку студэнцтва.

На жаль, існаванне ўсіх гэтых арганізацыяў звязанае з дзейнасцю іхніх «старэйшых братоў». Напрыклад, раскол у Фронце, аб якім гавораць так даўно і так шмат, што ён здаецца ўжо амаль фактам, немінуча пройдзе і праз «Малады фронт».



Яшчэ дзве радыкальныя арганізацыі, якія доўгі час «раскручваліся» ў прэсе, «Белы легіён» і «Партыя свабоды», на жаль, увогуле ўяўляюць сабою на цяперашні час не больш чым міф.

Тым часам мода на пацыфізм прайшла. Хлопцам захацелася хадзіць ва уніформе і адчуваць, што разам яны — сіла. Яны хочуць, каб пра іх казалі і ад іх нешта залежала. У РНЕ многія з іх пайшлі не таму, што яны лічаць сябе «чисто русскими», якраз такі не. У прыватных гутарках яны кажуць, маўляў, не, мы не хочам знаходзіцца пад рускім ботам і з задавальненнем назваліся б Беларускім Нацыянальным Адзінствам, замест свастыкі начапілі б «Пагоню» і г.д. Але, не здолеўшы ўзяць маладых радыкалаў пад кантроль, дэмакраты цяпер пакутуюць ад удараў іхніх берцаў па сваіх галовах.

Гэтыя развагі мелі б сумны фінал, калі б не два факты, якія адраджаюць надзею.

Нейк на пачатку красавіка ў Віцебску на чыгуначны вакзал прыбыў прыгарадны электрацягнік, з якога на перон выскачылі дзесяткі тры дзецюкоў у камуфляжы і з шэўронамі «Пагоня» на рукаве. Мясцовыя міліцыянты былі ў шоку і супакоіліся толькі тады, калі высветлілася, што хлопчыкі проста ездзілі на прыроду адпачыць.

А напрыканцы красавіка пяцьдзесят «гарадзенскіх гвардзейцаў», узброеныя паходнямі, доўгі час трымалі абарону супраць мясцовай міліцыі і АМОНу і мусілі паддацца толькі пасля таго, як іх пачалі збіваць міліцэйскім УАЗам.

Усе гэтыя людзі не ўваходзяць ні ў адну з зарэгістраваных арганізацыяў. Менавіта зараз ім патрэбная моцная падтрымка прэсы, каб зрабіць раскрутку, і тады ПТВшнікі з нерастрачанай энергіяй пачнуць шукаць тых самых «гвардзейцаў», а не штаб РНЕ. Сваё ўсё-такі бліжэй да сэрца. ■

# Іван Іванавіч, плаці грошы!

Мікола ВАЙТОВІЧ

**Будаўнікі, якія ўзводзілі прэзідэнцкую рэзідэнцыю ў Бярэзінскім запаведніку, са снежня мінулага года не атрымоўвалі зарплату. Як нам паведамілі ў фірме «Альменда», упраўленне справамі адміністрацыі прэзідэнта вінаватае каля 9 мільярдаў рублёў па тагачасных коштах. «Альменда» спадзяецца, што «заўхоз» Іван Ціцянкоў грошы ўсё ж пералічыць з улікам інфляцыі, і пасля гэтага ўдасца ліквідаваць запазычанасці па заробках.**

Прэзідэнцкую рэзідэнцыю ў Бярэзінскім запаведніку будавалі на працягу трох гадоў на месцы былой машэраўскай дачы, якую разабралі. На старым фундаменце ўзвялі трохпавярховы жылы комплекс. На другім і трэцім паверхах знаходзяцца апартаменты, у тым ліку прэзідэнцкія. Тут любіць спыняцца сам гаспадар запаведнай зоны Іван Ціцянкоў. Як нам паведамілі ў дырэкцыі рэзідэнцыі, у той час, калі «гаспадароў» няма ў гэтым палацы, асобная частка пакояў здаецца прыватным аматарам адпачынку на свежым паветры. Дзеля гэтага перад прыездам патрэбна дамовіцца з адміністрацыяй рэзідэнцыі і паведаміць нумар сваёй іншамаркі, якую дзяжурныя міліцыянты павінны прапусціць на прэзідэнцкую дачу. Дарэчы, кошт апартаментаў на адны суткі складае ад 32 да 78 долараў па курсе Нацбанка. Зразумела, што для прэзідэнта адпачынак тут бясплатны. Спецыяльна для ягонага прыезду тут ёсць пляцоўка для пасадкі верталёта. Да паслугаў высокапастаўленых асобаў ёсць сауна з басейнам. За адну гадзіну мыцця прыватныя турысты плацяць 10 долараў, а прэзідэнт можа папарыцца бясплатна. На першым паверсе рэзідэнцыі знаходзяцца кухня, актавая зала, більярдная. Ёсць яшчэ і тэнісны корт, карыстанне якім за гадзіну для прыватнікаў каштуе 5 долараў.

Натуральна, што ўсе памяшканні рэзідэнцыі маюць «еўравыгляд», пакоі абабітыя адмысловай вагонкай, з падвеснымі столямі, сантэхніка, электраабсталяванне, а таксама замкі, завесы, петлі — усё імпартнае. Да басейна падведзеныя медныя трубы. Кажуць, што ў адным з пакояў стаіць ложак з дыстанцыйным кіраваннем.

Рэзідэнцыя размяшчаецца на беразе Плаўнага возера, якое чысцілі некалькі месяцаў. Для высокапастаўленых чыноўнікаў і багатых прыватных асобаў у гэтым сезоне падрыхтаваная яшчэ адна забава — закупленая прагулачная лодка, на берагах ёсць шалашы.

Узвядзенне рэзідэнцыі, якое завяршылася ў канцы лістапада мінулага года, «штурмавалі» ў апошнія месяцы, працавалі ад раніцы да позняга вечара. Спачатку заробкі людзям плацілі, а потым перасталі. Да гэтага часу за ўдарную працу не разлічыліся. Мы паспрабавалі высветліць некаторыя акалічнасці ў намесніка кіраўніка справамі Уладзіміра Лазоўскага, але той нават не стаў размаўляць на гэтую балючую тэму. Сам «заўхоз» Іван Ціцянкоў патлумачыў карэспандэнту НАВІНАЎ, што будоўля ішла за кошт спонсараў, было шмат працы, і паабяцаў, што з будаўнікамі фірмы «Альменда» разлічацца, аднак параіў ім не прад'яўляць прэтэнзіяў. ■

ПОШТА

## Школьников пытаются «перековать»

6 мая 1999 года дирекция средней школы N5 г.Кричева предупредила Нестеренко Аркадия и Сергеева Дмитрия, что если они не выйдут из молодежной негосударственной организации «Гражданский форум», то им создадут условия, при которых эти ученики не сдадут выпускные экзамены и не поступят ни в одно учебное заведение. При этом завуч школы Толпыго В.И. назвала белорусскую оппозицию «предателями Родины».

Прекрасно понимая всю серьезность угрозы, исходящей от дирекции школы, ребята подали заявление с просьбой о правовой защите в Белорусский Хельсинкский комитет. Представитель БХК С.А.Неровный, представитель БНФ Сергей Боровиков и председатель кричевской молодежной негосударственной организации «ГФ» Дмитрий Шахрай посетили Луневич Тамару Федоровну для разъяснения ситуации. Во время разговора ей были представлены документы, доказывающие, что молодежная организация «Гражданский форум» зарегистрирована и не имеет никакого отношения к БНФ, однако она разорвала эти документы. Разговор шел на повышенных тонах, причем инициатором была она же.

На следующий день классные руководители были ознакомлены с сутью разговора и провели с учениками беседу — в целях профилактики. Возможно, учителя рассчитывают запугать демократически настроенную молодежь тем, что они не дадут возможности Нестеренко, Сергееву и Шахраю благополучно закончить 11 классов. ■

Дмитрий ШАХРАЙ, г.Кричев

## Ліст Зянону Пазьняку

Зянон Станіслававіч! Піша Вам Ваш выбаршчык Вячаслаў Дзям'янавіч. Я за дэмакратычную, вольную, незалежную Беларусь. Але я супраць таго, каб Вы ўносілі ў дэмакратычны курс разлад. Калі ўсе будуць адстойваць свае амбіцыі, то ніякай незалежнай Беларусі ў нас не будзе. Трэба трошкі паступіцца сваімі амбіцыямі, трэба прыслухоўвацца да радавых грамадзянаў, да іншых членаў розных дэмакратычных партыяў, трэба знаходзіць нейкі кампраміс. Зянон Станіслававіч, калі Вы прыйдзеце да ўлады, то не рабіце памылак тых, якія Вы рабілі тады, калі першы раз балатаваліся ў прэзідэнты: не трэба адмаўляцца ад супрацоўніцтва з Расіяй, таму што народ гэта не зразумее.

Паступова трэба людзям тлумачыць палітыку, каб усе не «перамалолі», гэтую інфармацыю. Жадаю Вам перамагчы і стаць сапраўды народным прэзідэнтам. ■

В.КЛІМАЎ

МЕРКАВАННІ

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ:

## «Для былых савецкіх людзей характэрныя культура барацьбы і культура пакутаў»

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН

«Мы — людзі культуры барацьбы, культуры барыкадаў. Мы ведаем, як знішчаць, праклінаць, ненавідзець адзін аднаго, але не ведаем, як знаходзіць сэнс у сабе саміх... І гэты вопыт барацьбы больш за ўсё перашкаджае нам цяпер», — пра гэта гаварыла вядомая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, выступаючы 17 траўня з дакладам на міжнароднай канферэнцыі «Кіно і канцэпцыя новага чалавека».

На думку пісьменніцы, яшчэ адна перашкода для асэнсавання таго, што адбываецца ў свеце, — гэта «культура пакутаў».

Першапачаткова, адзначыла С.Алексіевіч, у чарнобыльскіх паездках гэтая прыхільнасць да пакутаў выклікала ў яе бунт: схаваўшыся за пакуты, можна нічога не рабіць. Пазней С.Алексіевіч стала ўспрымаць гэтую з'яву «як спосаб нашага пражывання рэчаіснасці; калі яго выключыць, то нас няма».

«Савецкія людзі жылі ў жахлівым свеце, але гэта быў абжыты імі свет», — лічыць Алексіевіч. «Культура пакутаў», на яе думку, магчыма, дае нейкую раўнавагу свету, а беларусы здабываюць для ўсяго свету новае веданне — напрыклад, як жыць пасля сусветнай вайны.

З гэтымі думкамі пісьменніцы перагукалася выступленне на канферэнцыі вядомага беларускага кінарэжысёра Валерыя Рубінчыка аб тым, што прычына цяжкасцяў, якія перажываюць Беларусь і Расія, — у іх звычцы «жыць у аднапалярным свеце, дзе заўсёды нехта правы, а нехта не». На яго думку, прывычка сварыцца — гэта звычай не толькі кухняў, «але і ўсяго палітычнага свету». ■

Светлай памяці **Міколы Ганько**,
старшыні Згуртавання беларусаў Канады

Напярэдадні свайго 75-годдзя ў Канадзе ад цяжкай працяглай хваробы памер вядомы дзеяч беларускай эміграцыі Мікола Ганько.
Увесь яго жыццёвы шлях быў звязаны са змаганнем за беларускую ідэю, нацыянальнае адраджэнне і дзяржаўную незалежнасць Беларусі.
Мікола Ганько нарадзіўся на Маладзечаншчыне.
Падзеі Другой сусветнай вайны вымусілі яго пакінуць Бацькаўшчыну і апынуцца ў эміграцыі. Доўгія гады сп.Ганько ўзначальваў Згуртаванне беларусаў Канады, быў актыўным арганізатарам беларускага грамадскага нацыянальна-культурнага жыцця ў Таронта. У 1993 годзе — прыязджаў у якасці дэлегата на Першы з'езд беларусаў свету, з'яўляўся сябрам Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Неаднаразова потым наведваўся ў Беларусь, усёй душою радаваўся добрым пераменам і перажываў за будучыню Беларусі. Лёс роднае зямлі быў яго болем і клопатам.
Ад нас пайшоў добры чалавек, шчыры патрыёт і мужны змагар. Спадар Ганько пакінуў па сабе добрую памяць. Няхай яна будзе вечнаю.

**Управа Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»**

 Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 547 Нумар падпісаны ў друк 18/05/99 (15:00) Наклад — 17.150